# КРЫНІЦА

№4(22) ВЕРАСЕНЬ 2011 www.bchd.info





# У Магілёве прайшоў праваабарончы форум

**Магілёве 17 жніўня прайшоў праваабарончы форум, прысвечаны праблеме палітвязняў. Як адзначыў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі, адной з мэтай форуму з'яўляецца паказаць тым, хто датычны да рэпрэсій над зняволенымі ў турмах, што яны ў выпадку супрацьпраўных дзеянняў будуць несці асабістую адказнасць. Паводле яго слоў, супрацоўнікі турмаў могуць не толькі трапіць у спіс неўязных у краіны Еўрасаюзу, але і быць прыцягнутымі да крымінальнай адказнасці.**

Былы кандыдат у прэзідэнты таксама паведаміў, што мэтай правядзення форумаў з'яўляецца арганізацыя мясцовай салідарнасці і падтрымкі ў тых рэгіёнах і гарадах, дзе адбываюць пакаранне палітвязні. Ён адзначыў, што пакуль рэгіянальныя структуры не вельмі актыўна ўключаныя ў падтрымку зняволеных. «Але патэнцыял ёсць, актыўнасць у рэгіёнах вялікая», – сказаў ён.

Як распавёў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі, праваабарончыя форумы плануецца таксама правесці і ў іншых рэгіёнах, дзе знаходзяцца палітвязні, у прыватнасці, у Берасцейскай і Віцебскай абласцях. Магілёўская ж вобласць стала першай, паколькі ў ёй адбывае пакаранне палова ўсіх палітвязняў – 15 чалавек.

## СВАЯКІ ЗНЯВОЛЕНЫХ АСЦЕРАГАЮЦЦА ЗА ІХ ЗДАРОЎЕ

Так, маці асуджанага на тры гады фігуранта «справы 19 снежня» Дзмітрыя Буланава Клаўдзія і яго жонка Надзея Макарэвіч заявілі, што з-за знаходжання ў турме, неаказання або недастатковага аказання медыцынскай дапамогі рэзка пагоршыўся стан яго здароўя, паўстала рэўматоіднае ўскладненне, на працягу месяца ён знаходзіўся ў шпіталі.

Сваякі Дзмітрыя Буланава адзначылі, што маюць права перадаць яму толькі адну медыцынскую бандэроль у год. Пры гэтым яны распавялі, што некаторым сваякам зняволеных дэмакратычных актывістаў медыцынскія бандэролі ўжо вярнулі. У сувязі з гэтым, Клаўдзія Буланава паведаміла, што, згодна з міжнароднымі нормамі, неаказанне медыцынскай дапамогі прыраўноўваецца да катаванняў.

Сваякі зняволенага таксама адзначылі, што ў турму можна пе-




радаваць толькі тры пасылкі па 30 кілаграмаў у год, забаронена перадаваць тэлефонную картку, у той час як у турэмнай краме яны могуць купіць тавараў толькі на 175 тыс. рублёў. »Што можна купіць на гэтыя грошы ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі?», – адзначыла Клаўдзія Буланава.

У сваю чаргу Леанід Васілевіч, сын якога Ілля таксама адбывае трохгадовы тэрмін у Магілёўскай калоніі, заявіў, што лісты з Магілёва ў Менск ідуць 14-15 дзён. »За столькі дзён гэтую адлегласць пешшу можна прайсці», – адзначыў ён.

Пры гэтым Леанід Васілевіч заклікаў людзей, ад якіх гэта залежыць, дазволіць яго сыну напісаць хадайніцтва аб памілаванні. Паводле яго слоў, ён больш патрэбны на волі здаровы, чым у турме хворы. »Пры гэтым мой сын ні на што не скардзіцца, ні пра што не шкадуе», – сказаў ён.

Бабуля ж Яўгена Васьковіча, асуджанага на сем гадоў за напад на будынак КДБ у Бабруйску, заявіла, што ў яго пры пераводзе ў турму забралі ўсе кнігі і асадкі, а перададзены яму слоўнік ангельскай мовы вярнулі назад. Пры гэтым Тамара Васьковіч паведаміла, што за час знаходжання ў турме ў яе ўнука рэзка пагоршыўся зрок на адно вока.

Пры гэтым намесніца кіраўніка зарэгістраванай у Чэхіі моладзевай арганізацыі «Малады Фронт» Наста Палажанка падкрэсліла, што, калі б Яўген Васьковіч спаліў будынак КДБ, ён стаў бы нацыянальным героем.

Яроменак: сітуацыя ў турмах паляпшаецца пад ціскам Захаду

Актывіст «Маладога фронту» і БХД Уладзімір Яроменак, які таксама быў асуджаны па «справе 19 снежня», але 13 жніўня выйшаў на волю, заявіў аб недапушчальнасці якіх-небудзь перамоваў з уладамі да поўнага вызвалення зняволеных апазіцыянераў. Ён таксама адзначыў, што ў турмах сітуацыя са стаўленнем да зняволеных значна паляпшалася, калі краіны Захаду ўзмацнялі свой ціск на афіцыйны Менск.

Акрамя таго, Уладзімір Яроменак заклікаў і далей аказваць падтрымку палітвязням, умацоўваць салідарнасць. Ён выказаў упэўненасць, што неўзабаве ўсе зняволеныя выйдуць на волю, нягледзячы на нежаданне ўладаў.

У сваю чаргу Наста Палажанка распавяла аб умовах знаходжання ў калоніі ў Горках кіраўніка «Маладога фронту», яе жаніха Змітра Дашкевіча.

«Дашкевіч сядзіць адзін, ёсць звесткі, што яго збіваюць. Менавіта таму да яго не пускаюць адваката. Гэта беспрэцэдэнтная сітуацыя. Два разы на тыдзень да Змітра прыязджаюць адвакаты, а адміністрацыя калоніі іх не пускае. Цяпер ужо нават перасталі прыдумляць тлумачэнні і проста адсылаюць назад. Ёсць звесткі, што адваката і не пусцяць», – паведаміла яна.

Наста Палажанка таксама распавяла, што будзе патрабаваць ўзбуджэння крымінальных справаў у дачыненні начальніка калоніі і яго намесніка за парушэнне правоў Змітра Дашкевіча і нядопуск да яго адвакатаў. «У гэтых людзей ёсць пасады, імёны і прозвішчы, і гэтыя пасады, імёны і прозвішчы будуць у крымінальных справах», – адзначыла яна.

Намесніца кіраўніка МФ заявіла пра неабходнасць інфармавання грамадства, асабліва жыхароў гарадоў, у якіх адбываюць пакаранне апазіцыянеры, пра іх, а таксама пра супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія маюць дачыненне да ціску на іх.

«Гэта маленькія гарады, і людзі павінны ведаць, хто ў іх сядзіць, хто ўжывае рэпрэсіі. Калі людзі будуць разумець сувязь паміж палітвязнямі і адсутнасцю грошай на каўбасу ў іх кішэнях, тады сітуацыя зменіцца», – падкрэсліла яна.

**РЫМАШЭЎСКІ: БУДЫНКІ КДБ ПАВІННЫ БЫЦЬ РАЗБУРАНЫ**

Удзельнікі форуму таксама абмеркавалі магчымасці аказання дапамогі палітзняволеным, паляпшэння ўмоў іх знаходжання ў турмах і ў перспектыве поўнага і безумоўнага вызвалення.

«Наша задача – не толькі аказваць матэрыяльную дапамогу сваякам палітвязняў. Наша задача – стварыць ціск на тых карнікаў, якія знішчаюць палітвязняў», – сказаў Віталь Рымашэўскі.

Палітык таксама заявіў, што ў будучыні будынкі КДБ павінны быць знішчаныя або стаць помнікамі палітвязням.

Пасля заканчэння форуму яго ўдзельнікі падпісалі заявы з заклікам вызваліць зьняволеных апазыцыйных актывістаў. Канкрэтны фармат дапамогі палітвязням калоній Магілёўшчыны будзе агучаны пазней. Яго павінна скласці праваабарончая камісія. Адказнасць за гэта ўзяла на сябе Кааліцыя дэмакратычных сіл Магілёўшчыны.

# Сябры БХД штопятніцу ладзяць малітоўныя акцыі ў Гомлі і Горадні

**З ініцыятывы сябраў аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» у Гомелі і Горадні штопятніцу а 19-й гадзіне праходзяць малітоўныя акцыі, удзельнікі якіх моляцца за Беларусь.**



Гэтак, у Гомлі 12 жніўня малітва прайшла ў два этапы: спачатку ля помніку хрысціянскаму святцелю Беларусі Кірылу Тураўскаму, затым – ля памятнага знаку ахвярам канцэнтрацыйных лагероў у Вялікую Айчынную вайну. У акцыі бралі ўдзел прадстаўнікі розных канфесій.

«Спадзяюся, што акцыя пойдзе па нарастаючай, што колькасць удзельнікаў будзе расці. Я лічу такія малітоўныя акцыі найбольш прымальнай з легальных формаў выяўлення пазіцый сябраў БХД да падзей у краіне, магчымасцю выказаць падтрымку зняволеным», - паведаміў абласны каардынатар БХД Юры Клімовіч.

У Горадні малітвы ладзяцца ля праваслаўнага Пакроўскага сабору. 19 жніўня яны пройдуць ужо ў пяты раз. У сярэднім, у іх удзельнічае трошкі менш за дзесяць чалавек. «Людзі розныя прыходзяць, мяняюцца. Думаю, што, як скончацца адпачынкі, удзельнікаў стане больш», – адзначыў мясцовы кіраўнік БХД Мікола Баўсюк.

Нагадаем, што малітоўныя акцыі праходзяць таксама штодня а 20-й гадзіне ля Чырвонага касцёлу ў Менску і штопятніцу а 20-й гадзіне ля Ўспенскага сабору ў Віцебску.




# Далучайцеся да штодзённай малітвы за палітзняволеных і штопятнічнай малітвы за Беларусь!

**Шаноўныя сябры! Браты і сёстры!**

Беларускія хрысціянскія дэмакраты заклікаюць далучацца да малітвы за вызваленне ўсіх нявінна зняволенных, за іх духоўнае і цялеснае ўмацаванне і ўзмацненне салідарнасці ў Беларусі. Кожны дзень ля Чырвонага касцела сьвятых Сымона і Алены ў Менску а 20-й гадзіне збіраюцца вернікі розных канфесій, сваякі палітзняволеных і проста неабыякавыя людзі, каб памаліцца разам за свабоду Беларусі і ўсіх палітвязняў, каб запаліць знічы Свабоды і Салідарнасці з палітычнымі вязнямі.

Акрамя Менску штопятніцу малітвы за Беларусь і палітвязняў ладзяцца а 19-й гадзіне ў Гомлі ля помніку хрысціянскаму святцелю Беларусі Кірылу Тураўскаму і ў Горадні ля праваслаўнага Пакроўскага сабору, а 20-й гадзіне ля Ўспенскага сабору ў Віцебску.

Калі вы не можаце прыйсці, проста ў 20-00 выключыце святло ў сваёй кватэры, запаліце на вокнах свечкі і далучайцеся да агульнай малітвы. Мы верым, што, як напісана ў Божым Слове, “шмат можа ўзмоцненая малітва справядлівага” (Якуба, 5:16)

Антоні Бокун, пастар менскай царквы «Ян Прадвесьнік» пра малітву і перамены ў нашай краіне кажа наступнае:

«Каб Божыя перамены адбыліся ў беларускім народзе, беларускім хрысьціянам патрэбна клапаціцца пра сваю краіну, маліцца за яе і дзейнічаць дзеля гэтых пераменаў. І Госпад дабраславіць Свой народ.

Мы верым, што Госпад жадае бачыць свабодную, праведную, евангельскую Беларусь, у якой пануе праўда і справядлівасць. І каб бачыць такую Беларусь, кожную пятніцу мы аб’ядноўваемся ў пасце і малітве за нашу краіну.»

Нагадаем, ініцыятыва штодзённай малітоўнай акцыі ля Чырвонага касцёла ўзнікла стыхійна 19 студзеня падчас акцыі салідарнасці з арыштаванымі і пацярпелымі пасля падзеяў Плошчы-2010. Кожны дзень а 20-й гадзіне тут збіраюцца людзі са свечкамі, кветкамі і партрэтамі палітвязняў, спяваюць і моляцца, запальваюць знічкі і ставяць іх ля скульптуры арханёла Міхаіла.

А ініцыятыва штопятнічнай малітвы за Беларусь распачалася яшчэ напярэдадні пазамінулых выбараў 2006 года. Каардынатарам гэтай ініцыятывы з’яўляецца сустаршыня БХД, евангельскі хрысціянін Аляксей Шэін. Калі вы распачалі рэгулярныя малітвы за Беларусь і свабоду палітвязняў у сваёй мясцовасці ці царкоўнай супольнасці, просім паведаміць пра гэта па тэлефоне 8-029-6512665 (Аляксей).

**Далучайцеся да штопятнічнай малітвы за Беларусь, далучайцеся да штодзеннай малітвы за палітзняволеных. Будзем салідарнымі! З Богам мы пераможам!**

# БХД заклікала не выдаваць Мінску палітэмігрантаў

**Сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі заклікаў міжнародную супольнасць не выдаваць афіцыйнаму Мінску апазіцыянераў, якія эмігравалі. Пра гэта ён заявіў 18 ліпеня падчас сумеснай прэс-канферэнцыі БХД, Руху «Разам» і зарэгістраванай у Чэхіі арганізацыі «Малады Фронт».**

«Мы хочам заклікаць польскія ўлады і ўсю міжнародную супольнасць не выдаваць беларускім уладам, людзей якія хочуць атрымаць статус палітычных эмігрантаў. Усе міжнародныя праваабарончыя арганізацыі заяўляюць, што людзі ў беларускіх турмах знаходзяцца ў бесчалавечных умовах, суды палітычна матываваныя і непразрыстыя. Таму, мы лічым, што нават, калі і былі нейкія парушэнні, але чалавек быў звязаны з палітыкай, дык выдаваць яго Мінску нельга», – падкрэсліў ён.

Прэс-канферэнцыя, ў асноўным, была прысвечаная лёсу беларускага прадпрымальніка і апазіцыянера Андрэя Жукаўца, які з 1999 года знаходзіцца ў Польшчы і экстрадыцыі якога з 1999 года дамагаюцца беларускія ўлады. «Яму пагражае дзесяць гадоў турмы. Мы занепакоеныя той тэндэнцыяй, калі разглядаецца пытанне пра выдачу людзей Беларусі. У нас ужо ёсць 30 палітвязняў, і мы не хочам, каб іх было больш», – адзначыла намесніца старшыні МФ Наста Палажанка.



Яна адзначыла, што факт выдачы Андрэя Жукаўца Беларусі вельмі верагодны. Паводле яе слоў, у 2001 годзе, калі палітыка арыштавалі ў першы раз, гэтаму перашкодзілі заявы беларускіх апазіцыйных лідэраў і асабістае ўмяшанне Леха Качыньскага, які быў тады генпракурорам Польшчы.

«Мы памыляемся, кажучы што ведаем пазіцыю Польшчы. Пра яе пазіцыю можна меркаваць па справах, а не па словах», – лічыць Віталь Рымашэўскі.

«З 1994 года ўлада пераследвала бізнэсоўцаў, кідала іх у турмы з розных прычынаў. Таму беларуская апазіцыя засталася без унутранага фінансавання. Выдача Жукаўца стане дрэнным прыкладам для тых прадпрымальнікаў, якія пакуль яшчэ падтрымліваюць дэмакратычныя сілы», – адзначыў Віталь Рымашэўскі.

«Будучыня беларускай палітыкі залежыць ад моцных і самастойных палітычных сіл. А яны з'явяцца толькі тады, калі іх будуць фінансаваць такія людзі, як Жукавец. Інакш яны будуць залежыць ад знешніх сіл, ад грошай, якія паступаюць з ЕС або з Масквы», – падсумаваў Віталь Рымашэўскі.

# Заява БХД з нагоды арышта Бяляцкага: «Зараз патрэбны рэальныя крокі»



**Кіраўніцтва аргкамітэта па стварэнні партыі «Беалруская Хрысціняская Дэмакратыя» 9 жніўня прыняла заяву, у якой заклікала міжнародную супольнасць зрабіць рэальныя крокі па абароне дэмакратыі ў Беларусі:**

«Скандал, выкліканы арыштам Алеся Бяляцкага, набыў вялікі розгалас у Беларусі, Літве і цэлым свеце. Грамадскія арганізацыі, дэпутаты і ўрады выказваюць занепакоенасць крокам уладаў Літвы, якія супрацоўнічаюць са спецслужбамі Беларусі.

Толькі зараз урад Літвы пачаў праверку выпадку перадачы беларускім спецслужбам інфармацыі пра фінансавыя рахункі прадстаўнікоў апазіцыі, хаця Міністэрства Юстыцыі Літвы перадало іх ажно ў сакавіку.

Учора была заява МЗС Польшчы, дзе польскі бок асуджае затрыманне беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага і мае намер заклікаць партнёраў па Еўрасаюзу прыняць меры, якія гарантуюць бяспеку актывістам грамадзянскай супольнасці Беларусі. Польскае МЗС абяцае заклікаць партнёраў па ЕС зрабіць эфектыўныя крокі, якія б гарантавалі бяспеку прадстаўнікам беларускай грамадзянскай супольнасці, вымушаным дзейнічаць дзеля дэмакратыі ў Беларусі і па-за яе межамі.

Мы заклікаем польскія ўлады і ўсю міжнародную супольнасць не выдаваць беларускім уладам людзей, якія хочуць атрымаць статус палітычных эмігрантаў. Усе міжнародныя праваабарончыя арганізацыі заяўляюць, што людзі ў беларускіх турмах знаходзяцца ў бесчалавечных умовах, суды палітычна матываваныя і не празрыстыя. Таму, мы лічым, што нельга ісці на выдачу ўцекачоў і перадачу людзей, якія знаходзяцца пад пераследам, пакуль у Беларусі не выконваюцца законы, не дзейнічае міжнароднае права».

# Павал Севярынец будзе працаваць у фермерскай гаспадарцы




**Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні Партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Павал Севярынец, асуджаны да трох гадоў «хіміі», 11 жніўня прыбыў у вёску Купліна Пружанскага раёну для адбыцця пакарання. Вось што ён распавёў пра свой першы дзень знаходжання на «хіміі»:**

«Спецкамендатура знаходзіцца за некалькі кіламетраў ад Пружанаў у былым вайсковым гарадку. Звычайная «хімія». Людзі як людзі. Беларусы. Рэжым больш строгі, чым у Малым Сітне. Пад'ём а 6-й гадзіне, адбой а 22-й. Філіялаў у спецкамендатуры няма, людзі працуюць у горадзе ці бліжэйшых вёсках: грузчыкамі, align="left"рознарабочымі».

18 жніўня стала канчаткова вядома, што Павал Севярынец будзе працаваць у фермерскай гаспадарцы, якая знаходзіцца на тэрыторыі былой ваеннай часткі ў вёсцы Куплін. Яму так і не ўдалося ўладкавацца на працу ў Пружанах. Выпускніку БДУ, пісьменніку і журналісту адмовілі не толькі ў пружанскім краязнаўчым музеі, цэнтральнай раённай бібліятэцы і газеце «Раённыя будні», але нават у вакансіях дворніка, грузчыка і маляра, якія напярэдадні прапаноўвалі кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў.

«Прапанаваць мне працу адмовіліся нават тыя, хто на гэта пагаджаўся ўчора. Хутчэй за ўсё, улады хочуць, каб я працаваў далей ад Пружанаў, асьцерагаючыся, каб не было якіх народных хваляванняў», – распавёў асуджаны палітык.



Фермерская гаспадарка «Бардо», куды накіравалі на працу Паўла Севярынца, была створаная 30 красавіка 2003 г. Займаецца вырошчваннем бульбы, капусты, буракоў, морквы, збожжавых (ячмень, пшаніца), аптовым і рознічнага гандлем сельскагаспадарчай прадукцыяй, запчасткамі да сельгасмашынаў, рэстаўраванай і новай тэхнікай. Павал меў сустрэчу з уладальнікам гаспадаркі Анатолем Тарасевічам:

«Мне ў загадным парадку ў камендатуры сказалі з'явіцца ў сельскагаспадарчае прадпрыемства «Бардо», якое знаходзіцца побач, на тэрыторыі таго ж былога вайсковага гарадка. Там уладкавалі на працу. 19 жніўня першы працоўны дзень. Працаваць буду на бульбе. Я не ведаю, ці гэта будзе поле, ці гэта будзе нейкая сартаванне, ці штосьці яшчэ – гэта даведаюся заўтра. Я сюды не зарабляць прыехаў, мяне літаральна прымусам прыцягнулі».

19 жніўня, у першы працоўны дзень, стала вядома, што асуджанаму палітыку на ферме «Бардо» давядзецца працаваць рознарабочым шэсць дзён на тыдзень, нават па суботах. Тут ён працуе на складзе, дапамагае афармляць дакументы і грузіць тавары:

«Працую тут падсобным рабочым на складзе. Дапамагаю афармляць дакументацыю, пры неабходнасці пераношу фарбы ці нешта іншае. Пакуль яшчэ знаёмлюся тут з усім. Начальства добрае, ставіцца няблага».

Побытавыя ўмовы «хіміі» далёкія ад ідэалу, няма гарачай вады. Адміністрацыя дазваляе вязням раз на тыдзень выязджаць у горад у лазню: «Гэта былы вайсковы гарадок, таму тут з тых часоў засталася ўся інфраструктура. Вада жалезістая, жоўценькая, а ўсе будынкі, што месцяцца на гэтай тэрыторыі – былыя казармы, – гаворыць Павал Севярынец. – І міліцыянты, і на працы разумеюць, што тут усё як пад павелічальным шклом, пад увагаю прэсы, грамадскай супольнасці, таму паводзяць сябе асцярожна».

Сустаршыня БХД таксама паведаміў, што яго звазілі на машыне на медагляд у Пружаны. «Было некалькі гасцей, з якімі



меў магчымасць пагутарыць у альтанцы на ўваходзе ў спецкамендатуру», - паведаміў ён.

«Я вельмі ўдзячны мясцовым людзям, якія тэлефануюць, выказваюць словы падтрымкі і прапануюць дапамогу», – падкрэсліў палітвязень.

Нагадаем, 16 траўня Павал Севярынец, які падчас выбараў 2010 году кіраваў выбарчым штабам кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, быў асуджаны на тры гады абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу паводле ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэксу (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх).

# У Горках затрымалі каля 20 чалавек, у тым ліку сябраў БХД




**Супрацоўнікі міліцыі Горак 2 жніўня затрымалі каля 20 чалавек, якія прыехалі ў горад патрабаваць сустрэчы зняволенага ў мясцовай калоніі Змітра Дашкевіча з адвакатам. Сярод затрыманых – каардынатар аргкамітэту БХД па Берасцейскай вобласці Зміцер Шурхай і іншыя сябры аргкамітэту.**

«Ля калоніі хлопцы сталі з расцяжкай «Спыніце пераслед!». Да іх падбеглі міліцыянты і супрацоўнікі калоніі, яны здолелі забраць і парваць расцяжку, але нікога не забіралі. Затым праз некаторы час пад'ехаў аўтазак, у які пачалі саджаць людзей. Хутчэй за ўсё, нас павязуць у Горацкі РАУС», – паведаміў з аўтазаку Зміцер Шурхай.

З яго словаў, сярод затрыманых таксама актывіст БХД Яўген Скрабец, маладафронтаўцы Наста Палажанка, Мікола Дземідзенка, Іван Шыла, Юлія Міхайлава, Ганна Шаруба і іншыя.

Як паведаміў прэсавай службе БХД 3 жніўня прысутны ў Дрыбіне Андрэй Кім, Міколу Дземідзенку суддзя асудзіў да 17 сутак адміністрацыйнага арышту, на 10 сутак асудзілі сябра БХД Яўгена Скрабца. Наступнай асуджанай стала Ганна Шаруба, ёй далі 13 сутак. Сябра «Еўрапейскай Беларусі» Аляксей Сянчыла атрымаў 7 сутак, намесніца старшыні МФ Наста Палажанка –12 сутак, прэс-сакратарцы арганізацыі Таццяне Шапуццы і Юліі Міхайлавай суд прызначыў па 10 сутак арышту.

Разам з тым у Горках вызвалілі каардынатара аргкамітэту БХД па Берасцейскай вобласці Змітра Шурхая і маладафронтаўца Івана Шылу, якія запатрабавалі адваката. Суд над імі адкладзены да 8 жніўня. Сябру «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандру Велічэнку ў Горках далі штраф 1 мільён 50 тысяч рублёў, а Максіму Сямёнаву таксама з «Еўрапейскай Беларусі» суддзя прысудзіла 10 сутак арышту.



Каардынатар аргкамітэту БХД па Берасцейскай вобласці не паехаў 8 жніўня ў Горкі, дзе над ім павінен быў адбыцца суд за акцыю пратэсту ля Горацкай калоніі 2 жніўня. «Я даслаў ліст, што ў мяне няма дастаткова грошаў, каб туды даехаць, і папрасіў, каб перанеслі суд на два тыдні. У лісце я падкрэсліў, што не лічу сябе вінаватым, паколькі ратаваў жыццё сябра», – адзначыў ён.

Паводле суддзі Ірыны Чаплыгінай, і Шурхая, і Шылу абвінавачваюць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікетаванні. Суддзя не стала судзіць актывістаў, бо яны на паседжанне не з'явіліся. З новай датай паседжання суддзя яшчэ не вызначылася. Пра яе паведамяць абвінавачаным дадаткова.

«Калі яны будуць хавацца, то мы будзем у такім выпадку разглядаць без іх», — паведаміла Ірына Чаплыгіна.

У нядзелю 14 жніўня пасля дванаццаці сутак адміністрацыйнага арышту з Дрыбінскага ізалятару часовага ўтрымання выйшла на волю намесніца старшыні «Маладога фронту» Наста Палажанка, раней асуджаная на 1 год пазбаўлення волі ўмоўна. 3 ліпеня Горацкі раённы суд пакараў дзяўчыну за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі салідарнасці з яе жаніхом лідэрам «Маладога фронту» Зміцерам Дашкевічам ля папраўчай калоніі №9, дзе ён адбывае двухгадовае пакаранне.

«Нядопуск адваката да Дашкевіча мяне непакоіць, бо гэта звязана хутчэй за ўсё з лістамі пра памілаванне. У нас была такая інфармацыя пра ціск на палітвязьняў, каб яны пісалі прашэнні на імя Лукашэнкі. Зміцер гэтага не робіць, і адміністрацыя турмы не хоча, каб пра гэта інфармацыя трапіла на волю», - адзначыла Наста Палажанка адразу пасля вызвалення.

# 20-годзьдзе наданьня канстытуцыйнага статусу Дэкларацыі аб сувэрэнітэце БХД адсьвяткуе з хаўрусьнікамі

У Менску створаны аргкамітэт дзеля сьвяткаваньня 20-годзьдзя наданьня статусу канстытуцыйнага закону Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, якое будзе адзначацца 25-га жніўня. У ягоны склад увайшлі прадстаўнікі пяці палітычных партый і рухаў: Аляксей Янукевіч — старшыня партыі БНФ, Аляксей Шэін — адзін зь лідэраў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, Юрась Губарэвіч — намесьнік старшыні руху «За свабоду», Мікола Дземідзенка — намесьнік старшыні «Маладога фронту» і Аляксандар Макаеў — адзін зь лідэраў руху салідарнасьці «Разам». Юбілейныя ўгодкі яны мяркуюць адзначыць шэрагам творчых і культурных імпрэзаў.

21-ю гадавіну з дня прыняцьця дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі чальцы аргкамітэту адзначылі тым, што перадалі пасылкі ў турму на вуліцы Акрэсьціна палітвязьням, якія апынуліся за кратамі за ўдзел у маўклівых акцыях пратэсту. Пра неабходнасьць сьвяткаваньня гістарычнай падзеі, якая адбылася 27 ліпеня 1990 году, гаворыць адзін зь сябраў аргкамітэту Аляксей Шэін:

«Не зважаючы на тое, што мы маем 20 год незалежнасьці, мы застаемся ці не адзінай краінай былога Савецкага Саюзу, дзе гэтае сьвята не адзначаецца на дзяржаўным узроўні. Гэта кажа пра тое, што для сёньняшняй улады незалежнасьць не зьяўляецца базавай каштоўнасьцю, яна зь лёгкасьцю гэтую незалежнасьць здае. І сёньня незалежнасьць Беларусі ізноў пад пагрозай».

25 жніўня споўніцца 20 гадоў з таго дня, калі абвешчаная за год да таго дэкларацыя набыла статус канстытуцыйнага закону. З 25 жніўня і пачнецца чарада навуковых і творчых імпрэзаў, якая завершыцца 19 верасьня, кажа сябра аргкамітэту Аляксей Янукевіч:

«Шэраг імпрэзаў распачнецца 21 жніўня ўрачыстым адкрыцьцём выставы творчай суполкі «Пагоня», прысьвечанай 20-годзьдзю канстытуцыйнай незалежнасьці Беларусі. Гэта адбудзецца ў новай сядзібе партыі БНФ і будзе супадаць з прэзэнтацыяй новага партыйнага офісу. Завершацца імпрэзы 19 верасьня — гэта таксама гістарычная дата, 20-годзьдзе прыняцьця ў якасьці дзяржаўных сымбаляў бел-чырвона-белага сьцяга і герба «Пагоня», а таксама самой назвы — Рэспубліка Беларусь. Завершацца яны падвядзеньнем вынікаў літаратурнага конкурсу сярод моладзі. Адной з найбуйнейшых імпрэзаў будзе навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная вынікам 20-гадовай незалежнасьці Беларусі».






Арганізатары таксама запрашаюць далучыцца да аргкамітэту прадстаўнікоў іншых партый і рухаў. Моладзь, якая нарадзілася ўжо ў сувэрэннай Беларусі, яны заклікаюць узяць удзел у конкурсах і імпрэзах, каб гэтая дата ня толькі засталася ў памяці, а зь цягам часу набыла належнае ёй значэньне, адзначыў яшчэ адзін прадстаўнік аргкамітэту Аляксандар Макаеў:

«Урад Беларусі, які адмаўляе гэтыя даты і іх гістарычную значнасьць, страчвае сваю моц, і сваю легітымнасьць, і свой падмурак, што не дазваляе ім прыйсьці да беларускасьці. Мы ведаем, у якім ганебным становішчы цяпер знаходзіцца беларуская мова, гісторыя і культура. Я спадзяюся, што ў нас ёсьць лепшы шлях у будучыню, і сёньняшняя дата — яна неўзабаве ўжо будзе сьвяткавацца належным чынам».

Пасьля паседжаньня сябры аргкамітэту наведалі Ўсходнія могілкі Менску, дзе ўсклалі кветкі на магілы Васіля Быкава і Ўладзімера Караткевіча.

# Беларусь жыве на крыжы



**Зьмітру Дашкевічу – трыццаць. Юбілей Зьміцер адзначыў у турэмным карцары. Лідэр Маладога Фронту , палітвязень, адбывае ужо другі свой тэрмін (ды яшчэ паўгады на «сутках» за вулічныя акцыі пратэсту). Усё нармалёва: калі ты жывеш у Беларусі, любіш сваю краіну, верыш у Бога і робіш па сумленьні – на волі ты толькі часова.**

Тут свае знакі. 30 гадоў – гэта ўзрост Ісуса Хрыста, калі Ён пачаў Сваё зямное служэньне. Памятаеце, як гэта было? *«Тады Ісус быў паведзены Духам у пустыню, на спакушэньне ад д'ябла. І, пасьціўшы сорак дзён і сорак начэй, напасьледак згаладаўся…»*

Хто ня ў курсе, карцар – гэта каменістая пустыня ў чатырох сьценах, дзе мораць голадам. І Дашкевіч за апошнія два месяцы там ужо не ўпершыню. Калі чалавек ідзе Хрыстовым шляхам, д'ябал абавязкова будзе прыступаць і пытацца: *«Калі ты сын Божы, скажы, каб камяні гэтыя сталі хлябамі…»*

Скажы: здаюся. Прасьціце, дзядзенькі, больш ня буду. Законна асудзілі. Прашу памілаваньня. І камяні стануць хлябамі! І нават сырам (які вядома дзе дармавы бывае), і кілбасой, а там, глядзіш, і умоўна-датэрміновым вызваленьнем! О, там слова дорага каштуе. І творыць цуды. Толькі скажы. Але маўчыць Дашкевіч. І Ліхавід маўчыць. А Васьковіч нават адмаўляецца аддаваць спакусьнікам Біблію, бо ведае: адказ д'яблу напісаны там. *«Ня хлебам адзіным жыве чалавек, а ўсякім словам, якое зыходзіць з вуснаў Божых». ( Мацьвея 4:4*)

А з вуснаў Божых выходзіць праўда. Праўда. І ня ў сіле Бог, а ў праўдзе, і хлопцы гэта ведаюць. А зламысьнік не адступае: *«… І паказвае Яму ўсе царствы сьвету і славу іх, і кажа Яму: усё гэта дам Табе, калі, ўпаўшы, паклонішся мне».* Усяго толькі: стаць на калені і схіліць галаву не перад Богам!

Дашкевіч ужо шэсьць год кіруе Маладым Фронтам, наймацнейшым маладзёвым рухам у Беларусі. Сотні акцыяў. Дзясяткі крымінальных справаў. Галадоўкі. Зьбіцьцё. Арышты. Зноў галадоўкі. Вагі ў хударлявым Зьмітры кіляў 60, але з кожнай акцыі яго выносяць як найменш чацьвёра спэцназаўцаў.

Намесьнік Дашкевіча, 23-х гадовы гарадзенец Алесь Кіркевіч – у Наваполацкай калёніі. Арыштавалі Кіркевіча празь некалькі дзён пасьля вясельля. Напэўна, разьлічылі, што так будзе найбольш балюча. А Алесь прывучае сукамернікаў да малітвы і дасылае на волю вершы. І цяпер і ў Менску перад Чырвоным касьцёлам, і ў Віцебску на Успенскай горцы, і ў Гародні каля сабору штодзённыя малітвы за Беларусь і вызваленьне палітвязьняў пачынаюць, тройчы паўтараючы ягоныя радкі: «Уратуй, Божа – бо Ты можаш!»

Маладафронтавец Эдуард Лобаў, былы дэсантнік, зараз у івацэвіцкіх « Воўчых норах». Чатыры гады за спраўкаваную «ворганамі» бойку. Адзін зь менскіх лідэраў МФ Уладзь Яроменак, якога будслаўскія пілігрымы памятаюць па шчымлівых сьпевах пад гітару, на душнай Валадарцы. Па сьлядох Якуба Коласа. Тры гады, як і класіку. І таксама піша.

Зорка Маладога Фронту, 20-гадовая нявеста Дашкевіча, Настачка Палажанка атрымала год «умоўна» за Плошчу.

Свабодавец Мікіта Ліхавід — амаль бесперапынна у карцэры зоны- »дзясяткі». Не прызнае сябе «зэкам». Адмаўляецца выконваць распараджэньні адміністрацыі. Кідае выклік сістэме — на вачох у тысячы іншых асуджаных. А пакуль ён сядзіць, ягоную маму затрымліваюць за маўклівы пратэст у Менску — і садзяць у «бамжатнік» на дзесяць сутак. Так нараджаюцца нацыянальныя героі і нацыянальныя легенды. Так нараджаюцца народы.




Дарагія беларусы! Тыя, хто верыць, тыя, хто ня ведае, ці верыць ён, тыя, хто не задумваўся… **Ісус выяўляецца ў людзях, бо мы – вобраз і падабенства Ягонае. У такіх людзях, як Дашкевіч і Ліхавід, Кіркевіч і Мірзаянаў, Яроменак і Палажанка, Васьковіч і Лобаў. Яны, гэтыя маладыя, не за сябе там, і не за апазіцыю галадаюць, церпяць і жылы рвуць. За нас, беларусаў. За мяне. За цябе. За ўсіх. Мы можам падтрымаць іх. Малітвай. Лістом. Учынкам. Салідарнасьцю.**

**Адзін за ўсіх - і ўсе за аднаго! Тысячу гадоў Беларусь, краіна пад сьцягам Хрыста, жыве на крыжы. Проста Бог ёсьць любоў. А няма любові большае. калі хто аддае душу сваю за сяброў сваіх.**

**Сёньня балюча. Ім. Яны на крыжы — каб жыла Беларусь. Каб хоць крыху, ахвяраваўшы сваёй свабодай, наблізіць агульную.**

**Бо** *«дзе Дух Гасподні — там свабода!»* **, як кажа Слова Божае.**

*Павал Севярынец*

# Вінаватыя мы самі

**Многія паўтара дзесяцігоддзя чакалі моманту, калі беларусаў перастане задавальняць эканамічнае становішча і ўзрастуць пратэстныя настроі.**

Вось, дачакаліся. Некалькі месяцаў як узляцелі кошты, не стала валюты, народ перастаў масава верыць прапагандзе і стаў выказваць незадаволенасць уладай. І што ў выніку? Некалькі тысячаў адважных выйшлі на акцыі пратэсту, а астатнія назіралі праз Сеціва. Рэвалюцыі не адбылося.

На пытанне «хто вінаваты ў сённяшняй сітуацыі» абсалютная большасць беларусаў адкажа, што вінаватая ўлада, альбо персанальна Лукашэнка. Адным словам – ШОС – і ўсё будзе добра.

Ускласці ўсю адказнасць за сітуацыю на аднаго грамадзяніна, хай сабе і з неабмежаванымі паўнамоцтвамі, вельмі проста. Але адзін грамадзянін не нарабіў бы столькі бяды, калі б большасць беларусаў не падтрымлівала гэта актыўна альбо пасіўна.

Вінаваты не толькі Лукашэнка. Не толькі міністры, сілавікі і вертыкаль. Вінаватыя мы. Кожны з нас.

Гэтыя сямнаццаць год тысячы людзей працавалі на Лукашэнку ў кабінетах улады, сілавых структурах, дзяржаўнай прапагандзе і выбарчых камісіях. Мільёны людзей моўчкі згаджаліся – не выказваліся супраць, не абаранялі свае правы, не выходзілі на плошчы. І вынік – агульнымі намаганнямі мы давялі краіну да бядотнага стану.

Сёння пратэстныя настроі растуць, бо выраслі кошты і цяжэй стала пражыць. Яшчэ нядаўна, калі раслі заробкі, лукашэнкаўская «стабільнасць» нас задавальняла. Быў адносны матэрыяльны дабрабыт – і нас не турбавалі палітычныя вязні, закрыццё незалежных газет, фальсіфікацыя выбараў, прыніжэнне нацыянальных сімвалаў і заняпад беларускай культуры.

Гэта толькі марксісты разглядаюць культуру як «надбудову», якая стаіць над эканамічным «базісам». Але гісторыя паказвае, што лёс народаў залежыць ад таго, як людзі думаюць, як ставяцца да сябе, да сям'і, да працы, да краіны.



*«Так кажа Гасподзь: спынецеся на шляхах вашых і разгледзьце, і распытайце пра шляхі старажытных, дзе шлях добры, і ідзеце па ім, і знойдзеце спакой душам вашым»*, - заклікаў дзве з паловай тысячы год таму біблійны прарок Ерамія.

Сёння нам, беларусам, трэба гэтак жа спыніцца і разгледзецца. Прызнацца ў грахах і пакаяцца. Зразумець, што мы – народ, і пачаць адбудоўваць Беларусь.

*Кастусь Шыталь*

# Хто мае вушы, каб чуць, няхай чуе!



**Неаднаразова крычаў Ісус, звяртаючыся да натоўпу. Напэўна, вучні былі вельмі здзіўленыя, пачуўшы тэмбр голасу Збавіцеля. Дарэчы, гэтая знакамітая фраза Ісуса была настолькі яркай, што яе запомнілі і працытавалі амаль усе аўтары Евангелляў.**

Заспакоены характар Ісуса, Яго паслядоўнасць думкі, Яго Нябесная логіка, Яго разважлівасць, Яго цярпенне на некалькі секунд парушаліся, калі Ён бачыў натоўп абыякавых людзей, якія не слухалі Яго. «Людзі! Прачніцеся! Адкрыйце вашыя вушы! Перад вамі - Збаўца свету!»

Натоўп рэлігійных слухачоў, які чакаў сенсацый, дзівіўся мудрасці Ісуса, але не разумеў сэнсу Ягоных словаў. Усе чакалі цудаў, чакалі знакаў, магчыма, чакалі памылак. Натоўп імкнуўся штосьці убачыць, а Ён хацеў, каб Яго пачулі. І толькі дванаццаць абраных паслядоўнікаў былі гатовыя чуць Ісціну з вуснаў Ісуса.

У палітычным кантэксце падзей у Беларусі менавіта так і адбываецца. Навіны і вэб-сайты тыражуюць здарэнні, і нават нязначныя падзеі, спрабуючы задаволіць попыт на сенсацыі, які расце. Уся краіна «ў пагоні» за свежымі навінамі. Мы глядзім палітычны мульты-трылер «Ну, пачакай!», замоўлены рэжымам, дзе ў ролі злоснага ваўка рэжым Лукашэнкі, а ў ролі зайца - ўсё насельніцтва краіны. І мы, паддаўшыся запалу, блукаем па закутках сусветнага павуціння, прагнучы УБАЧЫЦЬ! Але ж Ісціна не ў тым, што мы ўбачым у інтэрнэце, а ў тым, што абяцаў нам Ісус. Я не ведаю, што абяцаў Гасподзь вам, але мне Ён абяцаў, што зусім хутка Дух Святы будзе дзейнічаць наўпрост ў Парламенце, а ўсе ідалы будуць прыбраныя з вуліцаў і плошчаў. А яшчэ, што змены адбудуцца ў адну ноч і без гвалту.

Словы Ісуса з пяшчотай пранікаюць у сэрцы тых, хто пакутуе, з разуменнем да тых, хто пакрыўджаны, са спачуваннем да тых, хто паранены, але з крыкам і гневам да абыякавых: «Прачніцеся, абыякавыя! Воля Божая здзяйсняецца. Тыя, хто маюць вушы, каб чуць, няхай чуюць!»

*Георгій Дзмітрук*

# Міф пра снайпера
(са скарачэннямі)



У якасці невялікай прадмовы скажу: наступны тэкст пісаўся некалькі тыдняў таму. Зараз паўстае пытанне: ці варта ўвогуле ўзгадваць пра снайпераў пасля нядаўняй трагедыі ў Нарвегіі? Але ўсё ж пакіну тэкст без зменаў. Зрэшты, зараз мы маем жудасны прыклад таго, што можа атрымацца, калі насамрэч нехта спрабуе «ўратаваць» краіну з дапамогай стрэлаў...

Апошнім часам у лексіконе беларускай апазіцыйнай субкультуры з'явілася новае слова, дакладней, новая абрэвіятура – ШОС, якую нязгодныя з рэжымам расшыфроўфаюць як «шоб он сел» ці нават яшчэ менш гуманна.

Гэтая абрэвіятура ёсць лагічным працягам ці адной з праяваў таго, што мы б азначылі як «міф пра снайпера». Нагадаем: яшчэ ў сярэдзіне дзевяностых гадоў у апазіцыйна-патрыятычным асяродку беларусаў з'явіўся папулярны жарт: «Беларусь уратуе толькі снайпер». Жарт быў звязаны з тым, што мноства праблем і заганаў беларускай сістэмы нібыта можна растлумачыць адной прычынай, прычым гэтая прычына – асоба: Прэзідэнт РБ А. Лукашэнка.

***

За смехам мы забываемся, наколькі ганебным для нацыі ёсць змест гэтага самага «міфу пра снайпера». Міф пра снайпера ёсць толькі адным бокам медалю; на другім баку – міф пра «бацьку». І тое, і іншае перакладае адказнасць за краіну на аднаго чалавека – на Лукашэнку. Такім чынам, роля народа, роля мноства асобаў, з якіх складаецца беларускі народ, – нівеліруецца. Уся адказансць перакладаецца на першую асобу, якой наканавана ўвасабляць сістэму – няважна, у якім кантэксце, ці то ў кантэксце спеваў пра беларускую стабільнасць (вобраза руплівага нязамяняльнага прэзідэнта-гаспадара), ці то ў кантэксце ненавіснай дыктатуры (дэманізаваны вобраз тырана – увасаблення крывавага рэжыму). Такім чынам, міф пра снайпера, стрэл якога нібыта можа вырашыць усе асноўныя праблемы, небяспечны хаця б таму, што ён быццам бы здымае з кожнага з нас адказнасць за сваю краіну. Ствараецца вобраз народа як пасіўнага статка, які дазваляе павесці сабе куды-заўгодна – і гэтак жа сама пасіўна чакае «вызваліцеля». Гэты вобраз пагражае матэрыялізавацца пад мудра-суцяшальныя выказванні кшталту: «Ну, Лукашэнка ж не вечны...».

У гэтым ШОС дый жарт пра снайпера парадаксальна сыходзяцца з афіцыйна-народным міфам пра незамяняльнага «бацьку»: і там, і там за Лукашэнкам не аспрэчваецца цэнтральная роля ў жыцці грамадства. Канцэпт «ён» («Он») змяшчаецца у цэнтры абрэвіятуры ШОС... Такім чынам, мы самі не заўважаем, як апрыоры згаджаемся з ягонай ключавой роляй. Мы самі адводзім яму найбольш пачэснае месца.

Працяддзем тут можа служыць як мінімум простае ўсведамленне, што дыктатуры не ўзнікаюць выпадкова. Калі ўсталяваўся дыктарарскі рэжым, значыць, у пэўны момант народ аказаўся гатовым яго прыняць. Ніводная дыктатура не можа існаваць без падтрымкі (хаця б і пасіўнай) вельмі вялікай часткі насельніцтва. Таму замест міфаў і падманліва-простых спосабаў рашэння праблемы варта задацца пытаннем: чаму ўзнікла дыктатура? Чаму мы апынуліся ў стане гатоўнасці да дыктатарскага рэжыму? Якія псіхалагічныя, сацыялагічныя, эканамічныя, адукацыйныя і, нарэшце, духоўныя фактары да гэтага прывялі? А таксама – у чым асабістая віна кожнага ці амаль кожнага з нас (бо, бадай, усе мы у нейкія моманты свайго жыцця падтрымлівалі лукашэнкаўскі рэжым, хаця б і пасіўна).

Да таго ж, міф пра снайпера, як і абрэвіятура «ШОС», маюць у сабе яшчэ больш сур'ёзную небяспеку – яны напаўняюць змаганне негатыўным настроем замест пазітыўнага. Атрымліваецца змаганне «супраць» (супраць Лукашэнкі) замест змагання «за» (свабоду, праўду, дэмакратыю і г.д.). Такім чынам, у цэнтры ўвагі аказваецца ўжо не свабода і дэмакратыя (ці, скажам, заможнае жыццё), а ўсё той жа «ён» – дэманізаваны вобраз дыктатара

***

Канешне, гнеў – гэта нармалёвая рэакцыя на гвалт і несправядлівасць у гэтым свеце, і ён можа надаваць нядрэнны імпульс змагання са злом. Але нельга, каб адмоўныя эмоцыі рабіліся дамінантай. Дамінаванне адмоўных эмоцыяў, нянавісці і гневу – гэта якраз тое, што бывае выгадна дыктатарскім рэжымам... Гэта дае падставу прадставіць пратэстоўцаў як разбуральнікаў-экстрэмістаў і апраўдвае прымяненне сілы. Менавіта таму экстрэмісцкія рухі ў краіне – падарунак для дыктатара; і ў гэтым Мубарэку ці Кадафі пашчасціла больш, чым Лукашэнку, агентам якога прыходзіцца прыкладаць шмат фантазіі, каб прадставіць «апазіцыянераў» у вобразе экстрэмістаў. Можна меркаваць, што адзін з прараўнаўча нядаўных «шэдэўраў» БТ «Площадь: железом по стеклу» (неяк перайменаваны ў інтэрнэце ў «Дубінай па галаве») – гэта не толькі паклёп; гэта – выдача жаданага за дзейснае. Бо менавіта такімі ўлады хацелі бы бачыць пратэстоўцаў: нешматлікімі, прадажнымі і, галоўнае, небяспечнымі для грамадства. Тое бы забяспечвала ўлады жаданым маральным правам на прымяненне сілы. Таму варта не толькі смяяцца з відэасюжэтаў БТшнага жанру, але і паводзіць сабе так, каб мара ўладаў пра агрэсіўную апазіцыю засталася нязбытнай.

***

Але ўсё ж у кантэксце ШОСаў ці міфаў пра снайпераў у нас пакуль што ёсць адна рэч, якая дае нагоду для радасці і гонару за нашую краіну. Мы можам ганарыцца тым, што за сямнаццаць гадоў дыктатуры ніводны беларус не паспрабаваў зрабіць ганебны міф пра снайпера рэальнасцю...

«Як, – здзіўлена пытаецца ў мяне пажылы паважны спадар з Прыднястроўя, – на яго (Лукашэнку) не было замахаў?»

Прыемна адказваць на такія пытанні. Гэтак жа сама прыемна тлумачыць людзям, што ў нас у Беларусі сапраўды няма такой апазіцыі, якая магла б учыніць тэракт ў метро... Нарэшце, калі з экрану БТ ільецца чарговая порцыя паклёпніцкай дэзінфамацыі, – можна парадавацца таму, што гэта менавіта дэзінфармацыя, што рэжыму прыходзіцца прыдумваць казкі пра экстрэмістаў, бо ў нас, нягледзячы на ўсе ўмовы для злосці й раздражнення, рэалізуецца сапраўдны негвалтоўны супраціў, амаль па Гандзі. Можа, калі будзе не «амаль», калі дададса і ўласцівы Гандзі баявы дух і экстрэмальная гатоўнасць да рызыкі, і, з другога боку, ягоная павага да апанентаў і адмова ад іх маральнага вынішчэння, – тады нават і пераможам.

*Маргарыта Тарайкевіч*
*Цалкам чытайце на www.bchd.info*

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай традыцыйнай рубрыцы «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ» мы прадстаўляем знакамітага беларускага палітыка, хроснага бацьку беларускага Адраджэньня, выбітнага дзеяча і пісьменьніка –* **Францішака Багушэвіча.**

***Абярэм Імя Беларусі разам!***





# ФРАНЬЦІШАК БАГУШЭВІЧ

Франьцішак Багушэвіч – хросны бацька беларускага Адраджэньня.

Менавіта Багушэвіч на поўны голас агучыў новае імя краіны, што ўваскрэсла з пахаваньнем Вялікае Літвы. «Беларусь», «беларуская мова» – напісаў Багушэвіч, і з тых пор мы беларусы.

Добры хросны зь вялізнымі вусамі, Францішак Багушэвіч вынес з народа ўсю беларускую нацыянальную ідэю. Проста ўзяў на рукі, як ахрышчанае немаўля, і панёс. А за ім пайшлі ўсе фальклярысты, народнікі, паэты й палітыкі.

Сам Багушэвіч паходзіў з сэрца Вялікага княства Літоўскага, зь Віленшчыны. Скончыў Віленскую гімназію, і пасьля Пецярбурскага Ўнівэрсытэту вярнуўся настаўнічаць пад Воранава. Удзельнічаў у паўстаньні Каліноўскага. Паранены, хаваўся на Ўкраіне. Нарэшце, зноў вярнуўся да Вільні, дзе стаў адвакатам судовае палаты.

«Мужыцкі адвакат» – такім яго й будзе ведаць уся ваколіца. Гэта яму, «Мацею Бурачку», па сьмерці простыя сяляне паставяць на магіле помнік. «Мужыцкі адвакат» – такім ён і застанецца ў беларускай гісторыі. Абаронца ўбогіх, галодных, бяспраўных. Прарок Беларусі, які самотна блукаў і голасна клікаў сярод нэндзы, пакутаў і гора цэлае нацыі.

Сваімі хрысьціянскімі вершамі наш хросны Багушэвіч, народная глыба, нагадвае яшчэ аднаго вялікага беларускага Франьцішка – Скарыну. Таксама кнігі. Таксама боль і любоў. Таксама народу. І, як найвялікшы з Францыскаў – Францыск Асізскі – ён з гэткім жа жалем ды замілаваньнем ставіўся да «простага люду». Багушэвіч, Скарына, Асізскі – жабрацкія браты-франьцішканцы.

У гэтай простай, шчырай і паэтычнай міласэрнасьці – Сам Ісус Хрыстос: «Дух Гасподні на Мне, бо Ён памазаў Мяне зьвеставаць убогім і паслаў Мяне ацаляць зламаных Сэрцам, прапаведваць палонным вызваленьне, сьляпым празрэньне, адпусьціць спакутваных на свабоду». ( Лукі 4:18 )




Багушэвіч, спадкаемца скарынаўскае традыцыі адухаўленьня народа, даў пачатак вершам Купалы, Коласа, ды ўсёй «Нашай Ніве». Стаў беларускім кабзаром – нашым Шаўчэнкам.

Багушэвіч адчуваў, наколькі мэлядычная беларушчына. «Дудка беларуская» (Кракаў, 1891), «Смык беларускі» (Познань, 1894), «Скрыпка беларуская» (дагэтуль ня знойдзеная). Цэлы аркестар паэтычнае сьпеўнасьці. Сымфонія Багушэвіча... Ён не пасьпеў скласьці яе поўнасьцю, але Беларусь загучала.

Прадмова ягонае першае кнігі – эпіграф да беларускага Адраджэньня XX стагодзьдзя.

«Браткі-беларусы, дзеткі маці-зямлі маёй…»

Вы чуеце?..

«Чытаў я ці ня мала старых папераў, па дзьвесьце, па трыста гадоў напісаных у нашай зямлі, і пісаны вялікімі панамі, а нашай мовай чысьцюсенькай, як бы вось цяпер пісалася...»

Якая ласка, якая любоў!

«Нашая мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога дадзеная.»

Нацыянальная ідэя Божага Слова – у двух радках!

«Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі.»

Франьцішак Багушэвіч памёр увесну 1900 г. На парозе XX стагодзьдзя – веку, які пачаўся й скончыўся беларускім Адраджэньнем.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# Ствараецца віртуальны архіў камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі



**Сябры кампаніі «Пакаянне» аргкамітэту БХД звяртаюцца па дапамогу ў стварэнні віртуальнага архіву камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі. Зараз вядзецца праца па пошуку і сканаванні дакументаў і фатаздымкаў рэпрэсаваных беларусаў у ГУЛАГу, а таксама фатаграфаванні і апісанні прывезеных адтуль рэчаў, што захаваліся ў нашых суайчыннікаў. І безумоўна, вядзецца архіўны аўдыё- і відэазапіс успамінаў сведкаў камуністычных рэпрэсіяў і былых вязняў савецкіх лагероў.**

Канчатковай мэтай збірання архіву ёсць стварэнне віртуальнага музэю камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі.

Калі вы маеце кантакты яшчэ жывых людзей, якія сядзелі ў ГУЛАГу, былі сасланыя ці маглі б іншым чынам асабіста засведчыць пра жахі камуністычных рэпрэсіяў, калі ў вас захаваліся дакументы і фатаздымкі вашых рэпрэсаваных бацькоў і дзядоў з ГУЛАГу і высылкі, а таксама рэчы, прывезеныя адтуль, ласкава просім паведаміць пра гэта на мэйл represii@gmail.com ці па тэлефонах 8-029-5712611(МТС), 8-029-3072713 (Вэлкам).

# У Курапатах маліліся за ахвяраў рэпрэсій



**23 жніўня, у агульнаэўрапейскі Дзень памяці ахвяраў сталінізму і нацызму ва ўрошчы Курапаты прайшла памінальная акцыя. Малебен служыў праваслаўны сьвятар Аляксандар.**

У Еўропе 23 жніўня ўшаноўваецца як адзіны дзень памяці усіх ахвяраў таталітарных і аўтарытарных рэжымаў. Еўрапейскі Парламэнт абвесціў гэты дзень ў 2009 годзе на знак памяці пра падпісанне «пакта Молатава-Рыбэнтропа», што паспрыяў развязванню Другой Сусветнай вайны. Такім чынам Еўропе згадваюць у гэты дзень усіх ахвяраў і нацызму, і камунізму, ураўняўшы такім чынам абодва гэтыя антычалавечыя таталітарныя рэжымы. Адпаведную рэзалюцыю 3 ліпеня 2009 года прыняла Парламенцкая Асамблея Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.



**Шаноўныя браты і сёстры!**

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Ірына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 25 жніўня 2011 г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.